Цана асобнага нумару 10 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 47. Вільня, Серада 22 Сьнежня 1926 г. Год II

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

Выходзе два разы ў тыдзень — у сераду і ў суботу нараніцы.

Адрэс Рэдакцыі й Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, ПОЛАЦКАЯ 4. — (WILNO, POŁOCKA 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы у двая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі

Цана абвестак:
на 1-ай старонцы 30 гр., 2 і 3-яй — 25 гр. і на 4-ай — 20 гр. за радок дробнага друку у вадnэй палосцы. Жадаючыя іншых абвестак павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

## Доля нашай моладзі.

Моладзь — душа народу. Будучыня кожнага народу перадусім залежыць ад кірунку выхаваньня яго моладзі. Народы, што маюць сваю незалежнасьць, выдаюць вялікія сумы з дзяржаўнага бюджэту на выхаваньне і навуку свае моладзі, бо ведаюць, што гэтай дарогай найлепш можна замацаваць незалежнае істнаваньне народу, якое запаўняе якнайлепшыя варункі для гаспадарчага разьвіцьця—для яго росквіту. Яркім прыкладам таго вялікага значэньня, якое адыгрывае ў жыцьці народу выхаваньне і навука моладзі, зьяўляецца Нямеччына. Гісторыкі і публіцыстыя свайго часу даказалі, што нямецка-францускую вайну ў 71-м годзе выйграў нямецкі народны вучыцель. Народны вучыцель выйграў вайну затым, што Нямеччына зьвярнула вельмі бачную ўвагу на агульнае абавязковае навучаньне і гэтай дарогай выхавала новае пакаленьне сьвядомых сваіх праў і абавязкаў грамадзян. Калі Нямеччына цяпер, на'т пасьля сусьветнай вайны гаспадарча і палітычна знаходзіцца на высокай роўні, дык гэта можым вытлумачыць тым, што нямецкі народ мае здаровую душу, якая на здаровых асновах выхоўваецца праз нямецкую школу.

Мы, Беларусы, пакрыўджаны гісторыяй, наша Бацькаўшчына згубіла сваю незалежнасьць, бо яе павадыры пачалі ў сваім часе пераймаць чужую культуру. Няючы ўжо праз доўгі час свае незалежнасьці, наш беларускі народ, ня мог добра выхоўваць сваю моладзь, ня мог вучыць яе на асновах роднай культуры. Наша моладзь, што пачынала ісьці ў сьвет, зрывала ўсялякую сувязь з сваім народам, з сваёй вёскай і пераходзіла на службу да іншых, да нашых ворагаў, бо мы ня мелі свайго незалежнага палітычнага істнаваньня.

Пасьля эўрапэйскай вайны, Беларусы хаця не дасталі поўнай незалежнасьці, аднак нашая палітычная няволя зьмяніла сваю форму. Дзякуючы лёзунгам на самаазначэньне народаў, мы маем права на выхаваньне і навуку свае моладзі ў сваёй роднай культуры. Калі ў апошнюю вайну мы не дайшлі да незалежнасьці, дык гэта віной ёсьць толькі тое, што мы ня мелі сваей роднай школы, душа нашай інтэлігенцыі—павадыра кожнага народу—была напхана чужой, варожай нам культурай, якая не хацела, каб наш народ вызваліўся з бяды і стаўся гаспадаром у сваім краі.

Цяпер амаль не ўва ўсіх частках падзеленай Беларусі пануе чужая ўлада. У кожнай з гэтых частак пануе той ці іншы рэжым, які не даець нам незалежнай ад палітычнай улады беларускай школы. Калі ходзе аб Заходнюю Беларусь, то тут нашы дзеткі прымусова вучацца ў чужой нам польскай мове. Калечаньне душы нашых дзетак у гэтых школах ідзець па пляне, устаноўленым уладай. Каб мэтна процістаўіцца гэтаму пляну, каб заапекавацца доляй нашай моладзі, нам трэба мець свой плян выхаваньня беларускіх дзетак. Калі ўлады не прызнаюць школьных дэклярацыяў, дык трэба дамагацца прыватнай беларускай школы, а калі і гэта не прынясе добрых рэзультатаў, дык трэба вучыць дзетак дома чытаць і пісаць пабеларуску. Амаль што ня ў кожнай вёсцы знойдзецца цяпер чалавек, які патрапіць вучыць пабеларуску чытаць і пісаць, вучыць беларускія вершы, гісторыі і географіі Беларусі. Такі хатні (дамовы) вучыцель можа зьбіраць штодзень на пару гадзін, па якіх пяцёра дзетак і вучыць іх сваей роднай культуры. Каб праца такога вучыцеля мела больш грамадзкі характар і каб заахвоціць бацькоў да нясеньня пэўных ахвяр на карысьць навучаньня дзетак у роднай мове, трэба старацца беларускай вясковай інтэлігенцыі закладаць на вёсках бібліатэчкі-чытальні. У гэтых чытальнях праз беларускае друкаванае слова, трэба несьці на вёску сьвет—сваю родную культуру. Разам з нашай культурай будзе будавацца фундамант пад наша адраджэньне, пад нашу вольную незалежную Бацькаўшчыну.

Дык уся інтэлігенцыя дружна да грамадзкай працы на культурнай ніве!

*А. Більдзюкевіч,*
Старшыня Цэнтр. Ўр.
Беларускага Інстытуту
Гаспадаркі і Культуры.

## Прамова пасла Ф. Ярэміча

**ў Сойме дня 14.XII с. г. пры дыскусыі над часовым бюджэтам.**

Высокая Палата! Амаль што ня 5 гадоў гаварылі з гэтай высокай трыбуны аб нашых занемаганьнях, аб нашых патрэбах, балячках. Падаём цэлыя літаніі гэтых крыўдаў, якія робяцца на нашых беларускіх землях, падаём цэлыя стосы матэр'ялаў усялякага роду надужыцьця, нялюдзкага катаваньня і зьдзеку над нашым народам уладамі адміністрацыйнымі або паліцыйнымі. Мы прышлі да праканаьня, што ўсіх гэтых нашых крыўдаў, усіх гэтых фактаў, ніхто не бярэ да сэрца, нікога гэта не абходзе, а часам на'т такія рэчы глёрыфікуюцца (пахваляюцца) гэтай стараной палаты, а ўрад ёсьць пэўны, што нічога яму ня зробіцца, калі і далей будзе весьці такую палітыку. І дзеля гэтага сёньня можа на'т і не забіралі-б голасу, бо ўважалі-б гэта за безкарыснае, калі-б цяпер не стаяў на чале ўраду Маршалак Язэп Пілсудскі, які ў 1919 і 1920 г., прыходзячы з вайной на нашыя землі абвясьціў вялікія словы, а гэтыя словы зьвінелі: „вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі". Ад гэтых слоў да сёнешняга дня не асталося ані літары, але тады тагачаснаму Начальніку Дзяржавы вельмі многа Беларусаў паверыла і пашло пад гэтыя сьцягі, уважаючы што фактычна будуць змагацца за сваю волю. Яны зрасілі крывёй сваю зямлю, палажылі сваё жыцьцё у абароне гэтых лёзунгаў, выставілі свае грудзі пад Варшавай, бо паны з гэтай стараны палаты ўцекалі тады ў Пазнань, але тыя сыны Беларусі ня мелі куды уцекаць, бо тут быў іх апошні кульмінацыйны пункт і яны аддалі сваё жыцьцё пад Варшавай. Аказалася, што вы фактычна дасталі вольнасьць і маеце вольную бацькаўшчыну,але мы і тыя, што змагаліся, маем разьдзёртую і змочанаю крывёй бацькаўшчыну; вы дасталі вольнасьць, а мы дасталі кайданы. Польскі жаўнер, які змагаўся за зямлю, дастаў асаду ў нас, а наш ваяка да сёньнешняга дня сядзіць у зямлянках. (Голас пас. Рагулі: Атрымаў вастрог, а гэта таксама свайго роду асада). Польскі селянін і польскі работнік дастаў хоць марныя школы, а мы дасталі вастрогі, арышты.

І вось, калі муж стану Пілсудскі ў 1919 г. выдаў гэтыя вэксалі беларускаму і украінскаму народу і не аплаціў іх, то на гэта мог яшчэ атказаць так: „Прашу паноў, але я сёньня сяджу ў Сулеюўку, не належу да ўраду і затым не магу выканаць таго, што дакляраваў.

Але сёньня бачым, што пасьля маёвага перавароту і пасьля новых лёзунгаў маральнай санацыі, гэты маршалак Пілсудскі мае ўрады (улады) ў Польшчы і фактычна можа выканаць тое, што дэкляраваў.

Аднак у працягу некалькімесячных урадаў Пілсудскага бачым, што выданыя ім вэксалі не аплачваюцца. Вось перш-на-перш у галіне асьветы ёсьць тое самае, што было раней, да сёньняшняга дня нічога не зьмянілася, але калі на'т і зьмянілася дык толькі на горшае. Як быў п. Ст. Грабскі, дык наагул гаварыў: „я вас не прызнаю, вас няма і ніводнай школы вам ня дам". Сёньня міністэр. прасьветы кажа: „магчыма, што атрымаеце беларускія школы, падавайце дэклярацыі", і выдае на'т канцэсіі на прыватныя школы, але вучыцялёў не зацьверджаюць. Гэткім чынам нават ня маем прыватных школ.

Праўда, дачакаліся слаўнага цыркуляру п. віцэ-прэм'ера Бартля, у якім вуча польскіх вучыцялёў, каб яны пазналіся з беларускай мовай, каб маглі ў гэтай роднай мове лепш палянізаваць беларускіх дзяцей. Дык гэтага мы дачакаліся.

У міністэрстве асьветы бачым для нас ад гэтай вядомай маральнай санацыі не паляпшэньне, але яшчэ пагаршэньне. У міністэрстве ўнутраных спраў асталіся тыя самыя людзі, якія былі да перавароту, асталася там тая самая сыстэма ўпраўленьня, карупцыі (развалу), правакацыі і перакупства адносна да Беларусаў. На гэта ня буду даваць усіх фактаў. Ня буду займаць многа часу, але з'ілюструю хоць малым фактам. У Жодзішках паліцыя пабіла 18-годняга хлапца за тое, што чытаў творы Родзевіча. Затэлеграфавалі да мяне, я пайшоў да п. Рачкевіча, Віленскага ваяводы. Ваявода сказаў, што гэта скандал: „Зараз вышлю ўрадніка, я гэтаму патураць ня буду". А які быў рэзультат гэнага? Фактычна ўраднік паехаў, дапрасіў 21 асобу, хлапцоў і дзяўчат, на ўсіх налажыў кару па 11 зл.

Калі-б не рабіў інтэрвэнцыі, то быў-бы толькі пабіты твар аднаго хлапца, а за тое, што зрабіў інтэрвэнцыю, яшчэ 21 асоба заплаціла кары па 11 зл. Вось сыстэма ўпраўленьня! Вас будуць біць, але вы ня маеце права жаліцца „Молчать и слушать"!

Міністэрства справядлівасьці. Я, як сябра вязьнёвай камісыі, магу сказаць, што віленскі вастрог быў адным з найлепшых вастрогаў у Польшчы, але і да яго дабраўся п. Мэйштовіч

# ПЕРАВАРОТ У ЛІТВЕ.

**У ночы 17-га сьнежня с. г. у Коуне, сталіцы Літвы, зроблены пераварот. Уладу у Літве забралі у свае рукі ваенныя павадыры.**

**Стары урад і Прэзыдэнт арыштаваны.**

16-га сьнежня Літоўскі Сойм засядаў да позьняй начы. У гэтым часе будынак Сойму быў акружаны войскам, а адзін з афіцэраў абвясьціў у Сойме, што па загаду дыктатара маёра Плехавічюса, Сойм распускаецца, а ўся ўлада пераходзіць у рукі дыктатара.

Далей быў арыштаваны маршалак Сойму. У гэтым самым часе войска арыштавала старшыню рады міністраў Сьляжэвіча і затрыманы ў хатнім арышце Прэзыдэнт.

Ніякага праліву крыві не было; ува ўсім краі спакойна.

Новая ўлада выдала адозву, якая скіравана проці палітыкі папярэдняга ўраду ў справе Вільні, адносінах з Саветамі і да Палякаў.

---

Паводле латвійскага тэлеграфнага агенства ў Літве ўжо ўтвораны новы ўрад у такім складзе:

Старшыня і міністар загранічных спраў — праф. **Вольдэмарас** (нар. саюз),
Міністар фінансаў — **Карвэліс** (хр. дэм.),
Мін. унутр спраў — **Нустэйгіс** (хр. дэм.),
Мін. асьветы — **Быстрас** (хр. дэм.),
Мін. вайск. спраў — **Мэрціс**
Мін. земляробства — **Алекса**
Мін. справядлів. — **Шылінгас**
Мін. камунікац. — **Енкевічюс**
(прадст. зямляробскіх партыяў),
Дзярж. кантроль — **Мільчюс** (фэд. пр.).

### Заява новага ўраду.

Новы ўрад заявіў літоўскаму тэлеграфнаму агенству, што замежная палітыка Літвы ня будзе зьменена, што дагавор з СССР астанецца ў сіле. З балтыцкімі дзяржавамі новы ўрад астанецца ў прыязных адносінах, аднак ня будзе імкнуцца да заключэньня з імі саюзу.

Літоўскі Сойм ня будзе распушчаны, магчыма, што ў ім утворыцца новая большасьць.

### Сметона кандыдатам на прэзыдэнта.

Паводле польскіх газэт, у сувязі з палітычным пераваротам у Літве, прэзыдэнт Грыніус мае зрачыся, а на яго месца будзе выбраны Сметона.

---

і давёў да таго, што сёньня там катуюць, забіваюць! Калі мы зьвярнуліся да адпаведных уладаў з просьбай: Паны, на мілы Бог, выдайце камунікат і пусьціце нас у вастрог, каб мы маглі даведацца, што там робіцца, то нам адказалі: „Мы вам не пазволім“. Калі зьвярнулася да п. Мэйштовіча 5 клюбаў: Беларускі, ППС., Вызваленьне, Хлоп. Саюз і нават Клюб Працы, каб прыняў дэлегацыю, і рачыў даць інфармацыі аб тым, што робіцца ў віленскім вастрозе, то п. Мэйштовіч адказаў, што дэлегацыі ня прыме і адаслаў да віцэміністра, або сказаў: „Я нічога аб гэтым не хачу ведаць. І на гэтым усё скончылася. Вось сыстэма ўпраўленьня; гэта мае быць маральная санацыя?! Тут гэтай маральнай санацыі ня бачым. Але бачым толькі павялічэньне бюджэту міністэрства справядлівасьці. Прадстаўнікі міністэрства справядлівасьці былі на столькі ласкавамі, што на бюджэтнай камісыі нам заявілі, што яны будуць апекавацца палітычнымі вязьнямі так добра, каб яны маглі быць лепш кормлены, эвэнтуальна (магчыма), каб на'т завясьці там варстаты працы і г. д.

Прашу паноў, павялічаны бюджэт міністэрства справядлівасьці на тое, каб правясьці адносна да нас тэрор, і каб павялічыць лік вязьняў, якія да сёньняшняга дня няпраўна гінуць у польскіх вастрогах, і каб іх можна было і далей трымаць у казаматах.

Далей, мы дасталі ў бюджэце павышэньне пэнсыяўураднікам і афіцэрам. Хто-ж на гэта будзе плаціць? Той згалелы бедны наш селянін, які сёньня сядзіць у зямлянках, які ня мае ані пядзі зямлі, ён будзе плаціць гэтыя генэральскія і палкоўніцкія рожніцы. Гэта ёсьць маральная санацыя і вырашэньне справы нацыянальных меншасьцяў.

Прашу паноў, няхай мне прадстаўнікі ўраду пакажуць хоць адзін грош асыгнаваны ў бюджэце на беларускую школу. Гэтага няма. І вы паны хочыце, каб мы галасавалі за гэтым бюджэтам, вы для нас сёньне прыгатаўляеце стрэльбы, але я магу тут сьцьвердзіць, што няма такой сталі, няма такіх стрэльбаў якія-б пя крушыліся аб маладыя грудзі маладога народу, а цьвярджу што мы, Беларусы, зьяўляемся гэтым маладым народам, гэтым сільны народам і мы вытрымаем гэтыя вашыя стрэльбы. Магу называць Беларусаў народам, бо мы афяроўваем на аўтар сваей бацькаўшчыны тысячы людзёў, якія гніюць у казаматах. А дык ёсьць народ, калі ён тысячы пасылае у вастрогі, на катаргу, на сьмерць і г. д. А дык магу сказаць толькі, што ўжо сказаў два гады таму назад, што мы дагэтуль прасілі, а цяпер прасіць ня будзем, а будзем браць. Я прышоў да пераканаўньня, што просьбаў ніхто не прыймае і ніхто нічога не дасьць, а трэба самым браць. Мы ператрываем усе цяжкія часы. Пражылі мы Грабскіх, пражывём і гэты ўрад, аднак веру, што настане ўрад сапраўды працуючых мас у Польшчы, які зразумее нашы інтарэсы, зразумее нашы рацыянальныя дамаганьні і тады вырашым усе нашы справы без дакляраванак.

Прашу паноў! У гэтым бюджэце для Беларусаў нічога няма.

З вышэйпаданых прычын будзем галасаваць проці бюджэту.

---

# Аб нашай мове.

Ведама, што найвялікшай адзінкай кожнага народу зьяўляецца яго мова. Гэтаў найвялікшай адзінкай у Беларуса будзе родная яму беларуская мова. І вось гэты адзнакі, нашы ворагі баяцца горэй за ўсё. Добра ведаюць, што калі нашай мове даць тыя правы, якімі карыстаецца скажам польская мова, то мова беларуская на беларускіх землях скора будзе гарой над іншымі мовамі. Вось чаму тыя, што маюць уладу робяць усялякія перашкоды, каб нашая мова не разьвівалася.

Самая дзікая зьвяга, хлусьня сыплецца на нашу мову, на наш культурны рух, адпужывае гэтым парадкам тых Беларусоў, якія з тых ці іншых прычын, ня могуць вызваліцца ад чужацкіх уплываў. Дык вось, каб даць належны адпор усім нашым праціўнікам, заткуць рот розным брахуном, трэба, каб кожны Беларус, любіў шанаваць, а што найважнейшае, ведаў-бы сваю мову. І калі дакладна ведаць сваю мову немагчыма кожнаму, то ў агульных галоўных нарысах яна павінна быць знаёма. Асабліва карысна пазнаёміцца з паглядамі людзей навукі на нашу мову, з яе мінуўшчынай.

I.

Кожны з нас, калі ён толькі не нямы, мусіць у працягу свайго жыцьця аб чым небудзь ды гаварыць, прамаўляць да іншых, адным словам, усё тое, што мы гаворым і будзе складаць нашу мову. Наша мова ёсьць асобная славянская мова, належыць яна да інда-германскіх моваў, разьвівалася із той галіны гэтых моваў, якая называецца славянскаю. Усе славянскія мовы дзеляцца на тры часткі: усходнюю, заходнюю з паўдзённую. Беларуская мова належыць да ўсходня-славянскай сям'і, але яна ёсьць зусім асобная ад расейскай і ўкраінскай, ды ня мае нічога супольнага з польскаю, каторая належыць да адменнай заходня-славянскай групы. Навука аб нашай мове разьвілася нядаўна. Доўгі час, амаль ня усё XIX стаг. у навуковых нават паглядах на нас і нашу мову панавала поўная блутаніна. Гарачыя спрэчкі, куды нас аднясьці, ці да Палякоў, ці да Расейцаў, не спыняліся ўвесь час. Так частка польскіх вучоных, апіраючыся на тым, што найважнейшыя працы з беларускай этнографіі, зьявіліся першы раз у польскай літэратуры, лічылі нас племям польскаго народу, а мову нашу лічылі гаворкай польскай мовы. У сваю чаргу, расейскія вучоныя, нястолькі дзеля навукі, а колькі дзеля расейскае палітыкі стараліся давясьці, што мы — не Палякі, а мова наша ня польская мова, а чыста маскоўская з прымяс'ю крыху польскіх слоў. Няведаньне аб нас саміх і нашай мове дайшло нават да таго, што доўгі час не маглі прыдумаць назоў для нас і нашае мовы. У польскай літэратуры называлі нашу мову рускаю, не мяшаючы з расейскаю, крывіцкаю а пасьля і беларускаю. У расейскайжа літэратуры называлі нашу мову: рускаю, крывічанскаю, славяно-рускаю, яшчэ йначай, а нарэшце беларускую. Але й тады знайшоўся цэлы сьцяг вучоных, каторыя станоўча даказвалі, што беларусы па сваей мове—гэта асобны славянскі народ.

II.

Так ужо ў 1806 г. нямецкі філёлёг Іоган Адэлюнг, апіраючыся на філёлёгічных асаблівасьцях нашай мовы пісаў, што: „Беларусы не складаюць часткі ні расейскага, ні ўкраінскага народу, а ёсьць асобны славянскі народ“. (Mithridates oder allgemeine Sprachenkunde, Berlin, 1806). Такой-жа самай думкі трымаўся і польскі вучоны М. Вішнеўскі ў сваей кнізе: „Historja literatury polskiej„, ён кажа: „мова беларуская самабытная, як і мова расейская“. Расейскі вучоны Д. Языкаў аб нашай мове кажа гэтак: „гэта ма быць тая-ж мова, якой гаварылі ў Пскове й Вялікім Наўгорадзе пры Варагах“, і з гэтага робіць вывад, што мова беларуская ёсьць „маткаю мовы вялікарускай“. (Энцыкл. лексыкоп. Плюшера, т. XIII 1837 г.) Расейскі гісторык М. Максімовіч, таксама кажа, што мова беларуская ёсьць мовай асобнай ад расейскай з украінскай. (История древней россійской словестности. Кіеў 1839 г.) Іншы крыху пагляд меў польскі вучоны Ян Чечот, кажучы, што „мова беларуская ёсьць мовай пераходнай паміж польскай, расейскай і украінскай. Украінская мова ў будове сваей болей падобна да польскай, беларуская (крыўская) да расейскай. (Piosnki Wieśniacze. Wilno, 1844 r.).

Што-ж датычыць месца беларускай мовы ў славяскай сям'і, дык даволі добры артыкул напісаў аб гэтым на нямецкай мове расейскі вучоны М. Надеждін. У ей ён гаворыць, што перш-на-перш былі дзьве ўсходня-славянскія мовы: пантыйска-руская (украінская) і балтыйска-руская (беларуская), раздзеляныя рэкамі Прыпяцью й Сожам. Гэтыя плямёны высылалі сваіх калянiстых на ўсход дзе, як мешаніна улажылася вялікаруская мова. (Mundarten der russichen Sprache, Jahrbücher der Literatur. Wien. 1841 r.).

Тое самае даказвае ў сваіх творах, пісанных панямецку і другі вучоны расеяц Міклошыч. З навейшых прац аб беларускай мове трэба адзначыць працы нашага земляка, акадэміка Карскага, выданныя ў чатырох тоўстых томах, у каторых ён разьбірае гісторыю разьвіцьця беларускай мовы ад XIII ст. і да нашых часоў. Цікава адцёміць, што ў сваіх дарэвалюцыйных томах гэтай працы, каторыя вядомы пад назвам „Беларусы“, даводзіў, што беларуская мова, гэта „наречіе“ (гаворка) расейскай мовы і толькі посьле расейскай рэвалюцыі, бліжэй падышоўшы да адраджэнскае беларускае культуры, праканаўся, што нашая мова — гэта самастойная славянская мова. Другі вучоны Беларус, проф. М. Даўнар-Запольскі, у сваей кнізе: „Асновы дзяржаўнасьці Беларусі“, надрукованай у розных мовах, навукова даводзіць нашу культурную самастойнасьць, як аснову, разам з другімі фактамі нашае дзяржаўнае незалежнасьці. Тое самае гавораць і польскія вучоныя як: Эдвард Кліх, проф. Бодуэн-дэ-Куртэнэй; расейскія вучоныя проф. Растаргуеў, Шахматаў і іншыя. Што беларуская мова цікавіць вучоны сьвет, паказуе хоць-бы тое, што з 1916 г. пачаў чытаць лекцыя беларускай мовы ў Врацлаўскім унівэр. проф. Рудольф Абіхт.

Вось усе гэты ўчоныя прызнаюць, што наша мова — гэта ня гутарка—дыялект, якой нябудзь усходня-славянскай мовы, а мова самабытная, са сваімі філёлёгічнымі, фонэтычнымі, сынтактычнымі, этымалёгічнымі і славарнымі асобнасьцямі.

Вось гэтак кажа навука аб нашай мове.

(Далей будзе).

*К. М—ч.*

---

# З Заходняе Беларусі.

### З працы Інстытуту.

У апошнія часы Віленскі Аддзел Бел. Інст. Гасп. і Культ. зьвярнў увагу на вялікае значэньне бібліатэчак на вёсках. Рэалізуючы гэтую думку, Інстытут пачаў высылаць гурткам Інстытуту кніжкі для бібліотэкі на павер. Каб аблягчыць гурткам рэкляму ў сувязі з лекцыямі і спэктаклямі, якія заводзяць гурткі, Віл. Аддзел Інст. надрукаваў адпаведныя афішы і высылае іх на жаданьне гурткоў.

### Паліцыя б'ецца.

Пасол Сойму Б. Рагуля надовячы выслаў наваградзкаму ваяводзе заяву такога зьместу: 7-га сьнежня г. г. на рынку ў Любчы, Наваградзкага пав., адбывалася газартавая ігра ў 3 карткі. Апрача іншых людзёў ігралі паліцыянты Свіркоўскі і Гонсік, а таксама сялянін канон з м. Любча. Пасьля аканчанай ігры, якога наагул не павінна дапускацца паліцыянты Свіркоўскі і Гопскі затрымалі на вуліцы сяляніна Канопа, добра яго пабілі і павялі на пастарунак. Тамака паліцыя набіла яго яшчэ па твары і скавала сабакам, каторы падзёр яму цела і адзежу.

У сувязі з гэтым прашу зрабіць следзтва ў гэтай справе і жорстка ўкараць вінойных, таксама як забараніць газартаваю ігру, у якую іграе нават паліцыя.

### Безрабоцьце ў Горадні.

Магістрат м. Горадні зарэгістраваў больш як 2000 безработных сем'яў, якія дамагаюцца помачы пажывеньнем. Дагэтуль карысталася з такога пажывеньня 300 сем'яў.

## Беларусы ў Латвіі.

### Мэты Беларускага Аддзелу.

У 4 нумары месячніка „Гаспадар" гр. Я. Шчорс падае такія мэты Беларускаага Аддзелу пры міністэрстве Асьветы.

1) Ў згодзе з вучыцелямі і прасьветнымі т-вамі выпрацаваць вучэбны плян для школ мяйсцовых і сельскіх,

2) устанавіць праграму minimum і высьветліць яе прыгоднасьць.

3) арганізаваць закупку ці друк патрэбных для беларускіх школ кніг і перад пачаткам вучэбнага году разаслаць іх у належным ліку па школах.

4) па ўсебаковым высьвятленьні справы арганізаваць курсы для вучыцялёў з заклікаеньнем выдатнейшых беларускіх навуковых працаўнікоў з заграніцы; зрабіць курсы аўтарытэтнымі—па складу лектароў—і цікавымі—па прадметам выкладаньня, што зрабіла-б лішнім прымус пры заклікаеньні на іх вучыцелёў:

5) Цераз часопісі знаеміць беларускае грамадзянства з становішчам беларускае школы й прасьветы наагул ў Латвіі.

### Расейскія рэакцыянэры зноў пачалі паход супроць беларускае меншасьці ў Латвіі.

Апошнімі днямі дзе-якія расейскія колы, што жывуць надзеяй на паварот „добрага старага мінулага", калі яны ў паліцэйскіх ды чыноўніцкіх мундзірах „апекаваліся" над латышамі ды беларусамі, — распачалі супроць беларускае меншасьці ў Латвіі новы паход.

Як і заўсёды, асабліва ахвотна друкуе аб Беларусах усялякія пасквільныя стацьці расейская газэта „Слово", зьмясьціўшая цэлы шэраг зацемак, якія могуць гаварыць толькі аб тым, што аўтары іх шалёна ненавідзяць беларускі працоўны народ і за ўсялякі кошт і ўсялякімі спосабамі гатовы змагацца з адраджэнчым беларускім рухам.

## З Польшчы.

### Марш. Пілсудскі ў Сойме.

Надовячы на паседжэньне бюджэтнай камісыі, якая разглядала бюджэт міністэрства Вайсковых Спраў, прыбыў марш. Пілсудзкі. Присутнасьць у Сойме марш. Пілсудскага была для ўсіх вялікай сэнсацыяй, бо дагэтуль ён нехацеў прызнаваць Сойму і ніколі не зьяўляўся ані на паседжаньні Сойму, ані на паседжаньні Соймавых Камісыяў. Кажуць, што прысутнасьць Пілсудскага у Сойме трэба тлумачыць цяперашнім цяжкім палітычным палажэньнем Польшчы.

Усім ужо вядома, што апошняе паседжаньне Лігі Народаў прынясло з сабой вялікі выгрыш на карысьць Нямеччыны, а пройгрыш з боку Францыі. Есьць ведама, што Польшча, як саюзьніца Францыі таксама шмат прайграла. Польскі урад Пілсудскага, што так высока нёс галаву, мусіў яе трохі апусьціць і на знак жалю з прычыны крыўды для Польшчы, павінен быў зьявіцца на паседжаньне соймавай бю джэтнай камісыі. Гэтая візыта Пілсудскага і ягоная патрыятычная прамова, у якой ваенны міністар біў на тое, каб рабіць як найбольш ваенных запасаў (уваружывацца) гавора аб тым, што Польшча спужалася апошніх выпадкаў у міжнародных палітычных зьменах.

### Прамова м. Пілсудскага.

У сваей прамове м. Пілсудзкі жаліўся на тое, што Польшча дагэтуль ня мае гадавога бюджэту на войска.

Месячныя бюджэты, якімі дагэтуль жыло ваеннае міністэрства, вельмі шкодна адбіваюцца на ваеннай сіле Польшчы, а тым больш тарнаваная дагэтуль сыстэма ашчаднасьці.

Марш. Пілсудзкі сказаў, што войска мусіць у Польшчы істнаваць, па спосабу з 1914 году, па спосабу з даваенных часоў, бо новыя пляны не зусім пэўныя.

Гаворачы аб часе ваеннай службы м. Пілсудскі, ваенны міністар сказаў, што польскі салдат патрабуе болып вучыцца, бо вельмі ветраны, але хоць Беларусы і Украінцы лепш трымаюцца навучанага, то ізноў іх трэба даўжэй вучыць. Аднак магчыма у некаторых часьцях ваеннай службы, гэтую службу трохі зьменшыць. Прэм'ер, Пілсудзкі згаджаўся з закідамі паслоў, што у польскім войску замнога адміністрацыі, за многа люцёй сядзіць у канцылярыях, але з гэтым трудна вясьці барацьбу, бо адміністрацыя заядае ўсю Польшчу.

У сваей прамове м. Пілсудзкі найбольшы націск клаў на ўваружэньне, на ваеныя запасы. Трэба і надта трэба рабіць ваенныя запасы аружжа, каб мець хоць на першы пачатак вайны.

Уся прамова была у велмі ласкавым тоне і выказывала тое, што Пілсудскі хоча падтрыманьня Сойму, бо сам ня дасьць рады з навісеўшымі з замежаў пад Польшчаю чорнымі хмарамі.

### Ваенны бюджэт.

Польская газэта „Warszawianka", абгаварвуючы польскі бюджэт, які выносіць трэцюю частку ўсяго дзяржаўнага бюджэту, стараецца бараніць, вялікія польскія выдаткі на войска, падаючы такія аргументы:

1 Угода ў Лёкарно сьцьвярдзіла, што Нямеччына мае граніцы на заходзе ненарушальныя і на ўсходзе нарушальныя.

2 Рэнскі дагавор значна папсуў польска-францускі саюз.

3 Немцы ўвайшлі на заўсёднае месца ў Раду Лігі Народаў, а Рада сьцьвердзіла ім, што артыкул 16 статуту Лігі, каторы абавязвае дзяржаваў даваць адзін аднаму помач ваенную і прапушчаць войска, каліб пачалася вайна, ня будзе мець для Нямеччыны поўнай сілы. Немцы робяць уклад з СССР. і апякуюцца апошнім дагаворам з Літвой.

5 Над Нямеччынай касуюць ваенны кантроль, або інача, даюць ёй магчымасьць уваружацца, а нават будаваць на мяжы з Польшчай крэпасьці. Як напр. Каралевец, Кістрын Глогаў.

6 Немцы ўжо пачынаюць гаварыць аб зьмене цяперашніх сваіх граніц.

### Амэрыканская пазыка.

Як паведамлае прэсавая інфармацыя Амэрыка згаджаецца пазычыць Польшчы грошы. Справе гэтай шмат памог рапарт праф. Камэрэра. Узамен за гэтую пазыку польскі ўрад маець здаць Амэрыцы ў арэнду які небудзь дзяржаўны манаполь, магчыма, што табачны. Сума пазычкі мае быць быцам 100 міл. даляраў.

### Усюды ваеншчына.

Міністар унутааных спраў выдаў ваяводам цыркуляр, у якім загадвае ўладам дапамагаць уселякім спартовым арганізацыям у іх навуцы ваеннай муштры. У гэтым цыркуляры маецца на мэце арганізацыя „Стшэлец".

**Зямля Сялянству бяз выкупу!**

ПЮІ ДЭ МОПАСАН.

## ВЯРНУЎСЯ.

(Пераклад з францускага **Л. М.**).

Мора пляскала па берагох коратка і аднатонна. Малыя белыя воблачкі, падхопленыя парыўчым ветрам, хутка ляцелі, як птушкі, праз вялікая сіняе неба. У складцы даліны па скаце да акеяну грэлася на сонцы вёска. З краю, пры самай дарозе, адзінокая хата Мартэн-Левэска. Гэта цесны куток рыбака. Сыцены з гліны, страха з саломы, заквечанай сінім касатнікам. Ля хаты шырокі як хустка, а абгароджаны сад, з каторага выглядалі агуркі, цыбуля, капуста, пятрушка, ялені ліст.

Гаспадар на рыбе. Гаспадыня папраўляла вялікую, рудую сетку, як вялізарную павучыну, развешанаю на сьцяне пад хатай. Дзяўчынка год каля чатырнаццёх сядзела перад брамкай саду, адкінуўшыся назад і абшывала старую, усю ў дзюрах і латах бялізну. Хлопчык маладзейшы яе на адзін год, трымаў на руках малое дзіцянё. Два галапупцы па тры або чатыры гады сядзелі ззаду яе на зямлі, нос з носам, капалі градкі і кідалі адзін аднаму ў твар жменямі пяску.

Усе маўчалі. Толькі дзіцянё, якога працавалі закалыхаць на руках, бесперастанку пішчэла кіслым, слабым голасам. Котка расцягнулася на вакне і спала. Падушка белых гвазьдзюкоў закрасавала пад сьцяной, а рой мухаў гудзеў над ёй. Дачка, што шыла хутка, пазвала матку.

— Мама!

— Чаго табе? — адклікнулася матка.

— Ён ізноў вун.

Ня мелі яны сёньня супакою ад самай раніцы. Нейкі чалавек, ужо не малады, ў абдзёртай адзежы прыблукаўся да іхніх вуглоў і не хацеў адыйсьціся. Перш-наперш зацемілі яго як праводзілі бацьку да лодкі. Тады ён сядзеў на краю канавы проці іх дзьвярэй. Вярнуліся дамоў, ён быў на тымсамым месцу і здаецца абглядаў іхнюю хату. Выглядаў ён на хвoрага або на якога кольвек гарутніка. Сядзеў і ня рухаўся болі як гадзіну. Пасьля, бачучы, што на яго зьвярнулі ўвагу як на нядобрага, падняўся і пайшоў, падцягваючы адну нагу. Але трохі пачакаўшы, ізноў варочаўся да іх хаты. Гэтым разам сеў далей, як-бы меў на мэце зрабіць штось благое.

Матка з дачкой перапалохаліся. Матка тым больш не магла супакоіцца, бо была натуры тклівай і што не чакала мужыка з мора раней як змрокам.

Мужык яе звaўся Левэск, яе самую звалі Мартэн'авай, а абоіх разам Мартэн-Левэск. Сталася гэта так. Першы раз яна была замужам за матросам па іменьню Мартэн, каторы кожная лета выязджаў на Новую-Зямлю лавіць кабельнаў. Пражыўшы з ім два гады, яна мела ад яго малую дзяўчынку і ўжо шосты месяц як насіла ў сабе другое дзіця. Раз неяк лодка „Дзьве-Сястры", трохмаштовая барка з Д'епу, на якой паплыў яе муж, прапала бяз весьці. Ніхто ня ведаў, што сталася з ёй. Ніхто не зацеміў, каб яе муж вяртаўся дамоў. Усе сказалі, што загавеў ён нейдзе душой і супакоіўся на тым. Жонка чакала яго дзесяць год, з горам гадавала малых дзяцей, а пасьля, калі была яна баба бойкая і добрая, рыбак з тэй самай аколіцы Левэск, удавец з адным хлопчыкам, пасватаўся да яе і ажаніўся. За тры гады жыцьця з ім мела яна яшчэ двое дзетак.

Жылі яны з бядой і горам папалам. Хлеб мелі не заўсёды, а мяса ў доме дык і не паказывалася. Калі зімой падымалася бура і ня можна было выехаць на мора, дык прыходзілася рабіць даўгі ў пекарні. Але дзеці тымчасам гадаваліся добра.

Суседзі гаварылі:

— Малайцы Мартэн-Левэскі...

Мартэн'ава была загартавана ў працы, а Левэск ня меў сабе роўні паміж рыбакамі.

Дачка, што сядзела ля брамкі гутарыла далей:

— Кажуць, што ён нас знае. Мо́жа гэта які жабрак з Эпрэвіля або з Оззбоса. Але матці прачуцце гаварыла штось іншае. Не, не, гэта не з тутэйшых аколіцаў, ёй гэта добра ведама.

Калі ён яшчэ болі прытаіўся і тарашчыў вочы на іхнюю хату, матку ўзяла злосьць, страх паддаў ёй адвагі. Схваціла яна рыдзель і сунулася на яго.

— Што ты там робіш! загаманіла на брадзягу!

Ён адказаў ахрыплым голасам:

— Я адпыхаю, ну! Ці я вам раблю што благое?

Яна ізноў закрычала:

— Чаго ты сядзіш перад нашай хатай, ці мо' што падглядаеш?

Ён адказаў:

— Я нікому нічога благога не раблю. Ці-ж ня можна сядзець на дарозе?

Не магла нічога адказаць яму і вярнулася ў хату. Дзень гэты надта ім здоўжыўся. Паўднём чалавек зьнікнуў, але а пятай гадзіне ізноў зьявіўся. Вечарам яго ня было. Як зьмяркалася вярнуўся Левэск з мора. Яму перэказалі ўсё, што было.

— Гэта нейкі прахадзімец, або дурны, адказаў мужык і пайшоў аддыхаць забыўшы ўсё на сьвеце. Тады калі яго сям'я толькі і думала аб тым прахадзімцу, што пазіраў на іхнюю хату такімі сьвірэпымі вачыма.

Настаў другі дзень. Падняўся сільны вецер, і матрос ня выехаў на мора. Сядзеў ён дома і памагаў жонцы правіць сетку. Каля дзевятай гадзіны старшая дачка Мартэн'авай, якая выходзіла пашукаць хлеба шпарка вярнулася і закрычала:

— Мамачка, ён ізноў вун!

У маткі закалацілася сэрца, пабялела як палатно і сказала сваіму мужыку:

— Ідзі, Левэск, пагавары з ім, няхай ён тут не сядзіць і ня пільнуе нас, бо гэта... бо ад гэтага мне робіцца дрэнна.

Левэск, вялізарны матрос, чырвоны як цэгла, з рыжай шорсткай барадой, з сінімі, а чорнай кропцы пасярэдзіне, вачыма, з каркам як у вала, адзеты заўсёды ў суконную сьвітку каб не баяцца ветру і дажджу на моры, выйшаў і неспяшаючыся зблізіўся да прахадзімца.

Пачалася гутарка. Матка з дзяцьмі ня спускала вачэй з іх, толькі сэрца ў ёй калацілася. Незнаёмы падняўся і разам з Мартынам скіраваўся да іх хаты. Мартэн'ава перапалохалася і не ведала, што пачаць.

(Далей будзе).

